# Голас Радзімы

№ 50 (2088)
15 снежня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Людміла КОЛАС — салістка Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР, заслужаная артыстка рэспублікі. Яе зорка ўзышла і ярка заззяла ў канцы 70-х гадоў. У 1977-м — яна стала лаўрэатам Усесаюзнага конкурсу вакалістаў імя Глінкі, а ў 1984-м — лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі за выкананне галоўных роляў у оперных спектаклях 1982—1984 гадоў. Людміла Колас выступае таксама ў канцэртных залах з вялікім і разнастайным камерным рэпертуарам.

Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.

# Выступленне М. С. ГАРБАЧОВА ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый

Паважаны пан Старшыня!

Паважаны пан Генеральны сакратар!

Паважаныя дэлегаты!

Мы прыбылі сюды, каб выказаць сваю павагу Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якая ўсё больш выяўляе сваю здольнасць быць унікальным міжнародным цэнтрам на службе міру і бяспекі.

Мы прыбылі сюды, каб выказаць сваю павагу годнасці гэтай арганізацыі, здольнай акумуліраваць калектыўны розум і волю чалавецтва.

Падзеі ўсё больш пацвярджаюць, што свету патрэбна такая арганізацыя. І ў сваю чаргу яна мае патрэбу ў актыўным удзеле ўсіх яе членаў, у падтрымцы яе пачынанняў і дзеянняў, ва ўзбагачэнні яе дзейнасці іх магчымасцямі і іх арыгінальным укладам.

Крыху больш года назад у артыкуле «Рэальнасць і гарантыі бяспечнага свету» я выказаў рад меркаванняў наконт праблем, якія знаходзяцца ў полі зроку ААН.

Мінулы час даў новы матэрыял для разважанняў. У развіцці сусветных падзей сапраўды надышоў пераломны момант.

Вядома роля Савецкага Саюза ў сусветных справах. І ўлічваючы цяперашнюю рэвалюцыйную перабудову ў нашай краіне, у якой заключаны каласальны патэнцыял міру і міжнароднага супрацоўніцтва, мы цяпер асабліва зацікаўлены ў тым, каб быць правільна зразуметымі.

Таму мы тут — каб у сценах самай аўтарытэтнай сусветнай арганізацыі падзяліцца сваімі разважаннямі і паведаміць ёй першай аб нашых новых важных рашэннях.

## I.

Якім чалавецтва ўвойдзе ў XXI стагоддзе? Думкі аб гэтай ужо недалёкай будучыні авалодваюць розумамі. Мы ўзіраемся ў гэту будучыню з чаканнем лепшага і адначасова з трывогай.

Свет, у якім мы жывём сёння, карэнным чынам адрозніваецца ад таго, якім ён быў у пачатку або нават у сярэдзіне цяперашняга стагоддзя. І ён працягвае мяняцца ва ўсіх сваіх састаўных частках.

Паяўленне ядзернай зброі толькі трагічным чынам падкрэсліла фундаментальны характар гэтых змяненняў. Як матэрыяльны сімвал і носьбіт абсалютнай ваеннай сілы яна адначасова выявіла і абсалютныя межы гэтай сілы.

Ва ўвесь рост паўстала праблема выжывання, самазахавання чалавецтва.

Адбываюцца найглыбейшыя сацыяльныя зрухі. На авансцэну гісторыі, няхай гэта будзе на Усходзе або на Поўдні, на Захадзе або на Поўначы, — выйшлі сотні мільёнаў людзей, новыя нацыі і дзяржавы, новыя грамадскія рухі і ідэалогіі.

У шырокіх, нярэдка бурных народных рухах выражаецца — ва ўсёй сваёй мнагапланавасці і супярэчлівасці — парыў да незалежнасці, да дэмакратыі і сацыяльнай справядлівасці. Ідэя дэмакратызацыі ўсяго светапарадку ператварылася ў магутную сацыяльна-палітычную сілу.

Разам з тым навукова-тэхнічная рэвалюцыя ператварыла многія праблемы — эканамічныя, харчовыя, энергетычныя, экалагічныя, інфармацыйныя, дэмаграфічныя,— з якімі мы яшчэ так нядаўна мелі справу як з нацыянальнымі або рэгіянальнымі, у праблемы глабальныя.

Свет стаў як бы больш бачным і адчувальным для ўсіх дзякуючы навейшым сродкам сувязі, масавай інфармацыі, транспарту. Міжнародныя адносіны небывала спрасціліся.

Сёння наўрад ці магчыма захаванне якіх-небудзь «закрытых» грамадстваў. Гэта патрабуе рашучага перагляду поглядаў на ўсю суму праблем міжнароднага супрацоўніцтва як найважнейшага элемента ўсеагульнай бяспекі.

Сусветная гаспадарка становіцца адзіным арганізмам, па-за якім не можа нармальна развівацца ні адна дзяржава, да якой бы грамадскай сістэмы яна ні належала і на якім бы



эканамічным узроўні яна ні знаходзілася.

Гэта ставіць на парадак дня выпрацоўку прынц[illegible] і новага механізма функц[illegible]равання сусветнай гаспадаркі, новай структуры міжнароднага падзелу працы.

У той жа час рост сусветнай эканомікі раскрывае супярэчнасці і межы індустрыялізацыі традыцыйнага тыпу. Далейшае яе распаўсюджанне «ўшыр і ўглыб» штурхае да экалагічнай катастрофы.

Але ёсць яшчэ многа краін, дзе прамысловасць недастаткова развіта, а некаторыя яшчэ не выйшлі з даіндустрыяльнай стадыі. Ці пойдзе працэс іх эканамічнага росту па старых тэхналагічных узорах, або яны змогуць уключыцца ў пошук экалагічна чыстай вытворчасці — вось адна з вялікіх праблем.

Другая: бездань паміж развітымі і большасцю стаўшых на шлях развіцця краін не скарачаецца, становячыся ўсё больш сур'ёзнай пагрозай глабальнага маштабу.

Гэта робіць неабходным пачаць пошукі прынцыпова новага тыпу прамысловага прагрэсу— такога, які адпавядаў бы інтарэсам усіх народаў і дзяржаў.

Адным словам, новыя рэальнасці мяняюць усю сусветную сітуацыю. Аслабляюцца або зрушваюцца атрыманыя ў спадчыну ад мінулага адрозненні і процілегласці. Але паяўляюцца новыя.

Страчваюць значэнне некаторыя ранейшыя рознагалоссі і спрэчкі. Іх месца займаюць канфлікты іншага роду.

Жыццё прымушае адкідваць прывычныя стэрэатыпы, устарэлыя погляды, вызваляцца ад ілюзій.

Мяняецца само ўяўленне аб характары і крытэрыях прагрэсу.

Было б наіўна думаць, што праблемы, якія раздзіраюць сучаснае чалавецтва, можна вырашаць сродкамі і метадамі, якія прымяняліся або здаваліся прыгоднымі раней.

Так. Чалавецтва набыло багацейшы вопыт палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага развіцця ў самых розных умовах. Але ён — з практыкі і аблічча свету, якія ўжо адышлі або адыходзяць у мінулае.

У гэтым — адна з прыкмет пераломнага характару цяперашняга этапа гісторыі.

Найвялікшыя філосафы спрабавалі пазнаць законы грамадскага развіцця, знайсці адказы на галоўнае пытанне: як зрабіць жыццё чалавека шчаслівым, справядлівым і бяспечным. Дзве вялікія рэвалюцыі — французская 1789 г. і расійская 1917 г.— зрабілі магутнае ўздзеянне на сам характар гістарычнага працэсу, радыкальна змянілі ход сусветных падзей.

Абедзве яны — кожная па-свойму — далі гіганцкі імпульс прагрэсу чалавецтва. Менавіта яны ў многім сфарміравалі і характар мыслення, які пакуль пераважае ў грамадскай свядомасці. Гэта найвялікшае духоўнае багацце.

Але сёння перад намі ўзнікае іншы свет, для якога трэба шукаць іншыя шляхі ў будучыню. Шукаць, апіраючыся, зразумела, на набыты вопыт, але бачачы і карэнныя адрозненні паміж тым, што было ўчора, і тым, што адбываецца сёння.

Навізна задач, а разам з ёю і цяжкасць іх гэтым не абмяжоўваюцца. Сёння мы ўступілі ў эпоху, калі ў аснове прагрэсу будзе ляжаць агульначалавечы інтарэс.

Усведамленне гэтага патрабуе, каб і сусветная палітыка вызначалася прыярытэтам агульначалавечых каштоўнасцей.

Гісторыя мінулых стагоддзяў і тысячагоддзяў была гісторыяй амаль паўсюдных войнаў, часам адчайных бітваў, якія даходзілі да ўзаемнага знішчэння.

Яны ўзнікалі з сутыкнення сацыяльных і палітычных інтарэсаў, нацыянальнай варожасці, з ідэалагічнай або рэлігійнай несумяшчальнасці. Усё гэта было.

І да гэтага часу яшчэ гэта не пераадоленае мінулае многія выдаюць за абавязковую заканамернасць.

Аднак паралельна з працэсам войнаў, варожасці, раз'яднанасці народаў і краін ішоў, набіраючы сілу, другі, гэтак жа аб'ектыўна абумоўлены працэс — працэс станаўлення ўзаемазвязанага і цэласнага свету.

Далейшы сусветны прагрэс магчымы цяпер толькі праз пошук агульначалавечага кансенсуса ў руху да новага сусветнага парадку.

Мы падышлі да такога рубяжа, калі неўпарадкаваная стыхійнасць заводзіць у тупік. І сусветнаму супольніцтву трэба будзе навучыцца фарміраваць і накіроўваць працэсы такім чынам, каб захаваць цывілізацыю, рабіць яе бяспечнай для ўсіх і больш спрыяльнай для нармальнага жыцця.

Размова ідзе аб супрацоўніцтве, якое было б больш дакладна назваць «сутворчасцю» і «суразвіццём».

Формула развіцця «за кошт іншага» зжывае сябе. У святле цяперашніх рэальнасцей немагчымы сапраўдны прагрэс ні за кошт ушчамлення правоў і свабод чалавека і народаў, ні за кошт прыроды.

Само вырашэнне глабальных праблем патрабуе новага «аб'ёму» і «якасці» ўзаемадзеяння дзяржаў і грамадска-палітычных плыней, незалежна ад ідэалагічных і іншых адрозненняў.

Вядома, адбываюцца і будуць адбывацца карэнныя змяненні і рэвалюцыйныя перамены ўнутры асобных краін і грамадскіх структур. Так было і так будзе.

Але наш час і тут уносіць карэктывы: унутраныя пераўтваральныя працэсы не могуць дасягнуць сваіх нацыянальных мэт, ідучы толькі на «паралельных курсах» з іншымі, без выкарыстання дасягненняў навакольнага свету і магчымасцей раўнапраўнага супрацоўніцтва.

У гэтых умовах тым больш разбуральным для станаўлення мірнага парадку было б умяшанне ў [illegible]тыя ўнутраныя працэсы з [illegible]ай перайначыць іх на чужы [illegible]ад.

У мінулым адрозненні нярэдка служылі фактарам адасобленасці адзін ад аднаго. Цяпер яны атрымліваюць магчымасць быць фактарам узаемаўзбагачэння і ўзаемапрыцягнення.

За а[illegible]ченнем у грамадскім ладзе, [illegible]кладзе жыцця, у пераважным выбары тых або іншых каштоўнасцей стаяць інтарэсы. Ад гэтага нікуды не дзецца.

Але нікуды не дзецца і ад стаўшага ўмовай выжывання і прагрэсу патрабавання знаходзіць баланс інтарэсаў у рамках міжнародных.

Абдумваючы ўсё гэта, прыходзіш да вываду, што, калі мы хочам улічваць урокі мінулага і рэальнасці сучаснага, калі мы павінны лічыцца з аб'ектыўнай логікай сусветнага развіцця, трэба шукаць, прычым сумесна шукаць, падыходы да аздараўлення міжнароднай сітуацыі, да будаўніцтва новага свету.

І калі гэта так, то варта дагаварыцца і аб асноўных, сапраўды універсальных, прадпасылках і прынцыпах такой дзейнасці.

Відавочна, напрыклад, што сіла і пагроза сілай не могуць больш і не павінны быць інструментам знешняй палітыкі. Перш за ўсё гэта адносіцца да ядзернай зброі, але справа не толькі ў ёй. Ад усіх, а ад больш моцных у першую чаргу, патрабуецца самаабмежаванне і поўнае выключэнне прымянення сілы звонку.

Такі першы і найважнейшы кампанент ненасільнага свету як ідэалу, які мы разам з Індыяй абвясцілі ў Дэлійскай дэкларацыі і якога мы запрашаем прытрымлівацца.

Да таго ж, сёння ўжо ясна, што нарошчванне ваеннай сілы не робіць ні адну дзяржаву ўсёмагутнай. Больш таго, аднабаковы ўпор на ваенную сілу ў канчатковым выніку аслабляе іншыя кампаненты нацыянальнай бяспекі.

Для нас ясна таксама абавязковасць прынцыпу **свабоды выбару.** Непрызнанне яго тоіць найцяжэйшыя вынікі для ўсеагульнага міру.

Адмаўляць гэта права народаў, пад якім бы выглядам гэта ні рабілася, якімі б словамі ні прыкрывалася,— значыць замахвацца нават на тую няўстойлівую раўнавагу, якой удалося дасягнуць. Свабода выбару — усеагульны прынцып і не павінен ведаць выключэнняў.

Да вываду аб непарушнасці гэтага прынцыпу мы прыйшлі не проста з добрых намераў. Да яго нас прывёў і бесстаронні аналіз аб'ектыўных працэсаў нашага часу.

Усё больш адчувальнай іх прыметай становіцца растучая **многаварыянтнасць** грамадскага развіцця розных краін. Гэта датычыць і капіталістычнай, і сацыялістычнай сістэм.

Аб гэтым жа сведчыць і разнастайнасць грамадска-палітычных структур, якія выраслі ў апошнія дзесяцігоддзі з нацыянальна-вызваленчых рухаў.

А гэты аб'ектыўны факт мае на ўвазе павагу да поглядаў і пазіцый іншых, цярпімасць, гатоўнасць успрымаць іншае не абавязкова як дрэннае або варожае, здольнасць вучыцца жыць побач, застаючыся рознымі і не ва ўсім згоднымі адзін з адным.

Самасцвярджэнне шматабліччасці свету робіць беспадстаўнымі спробы з пагардай пазіраць на іншых і вучыць іх «сваёй» дэмакратыі. Не гаворачы ўжо аб тым, што дэмакратычныя каштоўнасці ў «экспартным выкананні» нярэдка вельмі хутка абясцэньваюцца.

Так што размова ідзе аб адзінстве ў разнастайнасці. Калі мы канстатуем гэта ў палітычным плане, калі пацвярджаем, што мы прыхільныя да свабоды выбару, тады адпадуць і ўяўленні, што нехта знаходзіцца на Зямлі ў выніку «святой волі», а нехта іншы аказаўся тут зусім выпадкова.

Пара збаўляцца ад такога комплексу і адпаведным чынам будаваць сваю палітычную лінію. Тады адкрыюцца і перспектывы ўмацавання адзінства свету.

Патрабаваннем новага этапа стала дэідэалагізацыя міждзяржаўных адносін. Мы не адмаўляемся ад нашых перакананняў, ад нашай філасофіі, традыцый, не заклікаем нікога адмаўляцца ад сваіх.

Але мы і не збіраемся замыкацца ў кругу сваіх каштоўнасцей. Гэта вяло б да духоўнага збядзнення, бо азначала б адмову ад такой магутнай крыніцы развіцця, як абмен усім тым арыгінальным, што ствараецца кожнай нацыяй самастойна.

У ходзе такога абмену няхай кожны даказвае перавагі свайго ладу, свайго ўкладу жыцця, сваіх каштоўнасцей — але не толькі словам і прапагандай, а рэальнымі справамі.

Гэта і ёсць сумленная барацьба ідэалогій. Але яна не павінна пераносіцца на ўзаемаадносіны паміж дзяржавамі. Інакш мы проста не зможам вырашыць ні адной з сусветных праблем:

ні наладзіць шырокага ўзаемавыгаднага і раўнапраўнага супрацоўніцтва паміж народамі;

ні рацыянальна распарадзіцца дасягненнямі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі;

ні пераўтварыць светагаспадарчыя сувязі і ні абараніць навакольнае асяроддзе;

ні пераадолець слабаразвітасць, ні пакончыць з голадам, хваробамі, непісьменнасцю, іншымі масавымі бедамі;

і ўжо, вядома, нам не ўдасца тады ліквідаваць ядзерную пагрозу і мілітарызм.

Такія нашы разважанні аб заканамернасцях свету на парозе XXI стагоддзя.

**(Заканчэнне на 4—5-й стар.).**

## *ПЕРАБУДОВА Ў СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ*

# «МАЛАДЗЕЧАНСКІ» НАБІРАЕ СІЛУ

Маладзечанскі раён — адзін з самых развітых на Міншчыне. Адсюль дзяржава атрымлівае збожжа, бульбу, гародніну, малако і мяса. І ў параўнанні з іншымі, здавалася б, прычын для трывогі няма. Аднак глыбокі аналіз дзейнасці Маладзечанскага раённага аграпрамысловага аб'яднання (РАПА), яго форм і метадаў работы, тэмпаў развіцця, стану прадпрыемстваў перапрацоўчай прамысловасці і фінансаў увогуле сведчыў аб неабходнасці карэннай перабудовы ў гэтай галіне мясцовай гаспадаркі. Наводзіў на роздум і той факт, што летась РАПА 94 разы карала сваіх спецыялістаў і кіраўнікоў. Але карысці такое заўзятае адміністраванне не прыносіла.

Узважыўшы ўсе абставіны і параіўшыся з кіраўнікамі, спецыялістамі сельскай гаспадаркі, радавымі вяскоўцамі, прапанавалі стварыць агракамбінат «Маладзечанскі». І вось у пачатку гэтага года замест РАПА стаў дзейнічаць агракамбінат. Ён аб'яднаў перапрацоўку і рэалізацыю сельгаспрадукцыі, у яго — адзіны разліковы рахунак, свая крэдытная сістэма. Тут трэба адзначыць, што ў раёне знайшоўся здольны аўтарытэтны кіраўнік, сапраўдны лідэр, які змог павесці за сабой людзей — Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня вядомага ў краіне калгаса «Светлы шлях» У. Калачык. Савет агракамбіната аднагалосна выбраў яго сваім генеральным дырэктарам.

Ужо сёлетнія вынікі паказваюць, што рэарганізацыя прынесла плён. Гэта было абумоўлена ў многім тым, што і дырэктар Калачык, і савет камбіната рэзка памянялі стыль і метады кіраўніцтва. Гаспадаркам прадастаўляюцца самастойнасць у выбары тэхналогіі вытворчасці прадукцыі, права самім вызначаць перспектывы свайго развіцця, унутрыгаспадарчых адносін, арганізацыі працы. На масавыя палявыя работы ўжо не пасылаюцца ўпаўнаважаныя ад камбіната і райкома партыі, не дыктуюцца тэрміны іх правядзення. Аператыўнасць і якасць работ стымулююцца аплатай працы, дадатковая вытворчасць прадукцыі — закупачнай цаной, зацікаўленасць кіраўніка і спецыялістаў у лепшых выніках — даплатамі і правамі атрымання крэдытаў на льготных умовах. Дарэчы, сёлета саветам агракамбіната да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута ўдвая менш людзей.

Не выпадкова Н. Шэмет, брыгадзір саўгаса імя Прытыцкага, так ацэньвае сітуацыю:

— Сёння ўсіх хвалюе пытанне: як змяніць адносіны да галоўнага багацця — зямлі, як вярнуць ёй гаспадара. На маю думку, стварэнне камбіната—крок да гэтага. Менш стала каманд і ўсемагчымых праверак. З'явілася самастойнасць, свабода праявіць ініцыятыву. Ужо пасяўная паказала, што мы можам працаваць без указанняў і кантралёраў. Наш калектыў на нарыхтоўцы кармоў поўнасцю адмовіўся ад дапамогі гараджан. У сціслыя тэрміны сабралі ўраджай, выканалі дзяржаўныя пастаўкі ўсіх відаў прадукцыі. У два разы будзе вышэй прыбытак і рэнтабельнасць у параўнанні з мінулым годам. Але пакуль лічым, што тых вынікаў, якія патрэбны, не дасягнулі.

Так, ужо з першых дзён існавання камбіната выявіўся шэраг праблем, якія трэба вырашаць толькі самім маладзечанцам. «Мы—дрэнныя бізнесмены,—неяк на адным са сходаў гаварыў У. Калачык.—Нам усім варта хутчэй вучыцца працаваць па-новаму. І не толькі ўменню вырошчваць і перарабляць прадукцыю, але і выгадна яе прадаваць. Мы сёлета не ведалі, куды збыць капусту, а вядомая латвійская аграфірма «Адажы» наладзіла пастаўкі квашанай капусты ў Галандыю за валюту. Чым не прыклад?»

Цяпер кіраўніцтва камбіната наладжвае партнёрскія сувязі з ПНР, ФРГ, ЧССР. Павінны неўзабаве атрымаць новыя тэхналогіі, сучаснае абсталяванне, і ў хуткім часе яны змогуць пастаўляць на знешні рынак канкурэнтаздольную прадукцыю. З гэтай нагоды мяркуецца перайсці ад продажу дзяржаве сельскагаспадарчай сыравіны да паставкі ў магазіны і на рынак прадуктаў харчавання і тавараў. Таксама тут плануецца аб'яднаць гаспадаркі з перапрацоўчымі прадпрыемствамі, будаваць свае цэхі і модулі па вытворчасці прадуктаў, пашыву футравай і скуранай вопраткі, выпуску тавараў шырокага попыту і кампанентаў для прамысловасці. Ужо разам з вучонымі вывучаюцца шляхі далейшага ўдасканалення арганізацыйнай структуры агракамбіната, плануецца добраахвотнае аб'яднанне працоўных калектываў у кааператывы, аграфірмы з правам прамога выхаду на рынак, у тым ліку і за мяжу.

**Л. ТУГАРЫН.**

**ВАЯВАЛІ З ФАШЫЗМАМ**

# УЗНАГАРОДЫ ПРЫЙШЛІ З ЛОНДАНА

Праз сорак тры гады пасля заканчэння другой сусветнай вайны атрымаў баявыя ўзнагароды Вялікабрытаніі ветэран з Мінска Сцяпан Сідаронак. «Зорку за 1939—45 гг.», «Італьянскую зорку», «Медаль за абарону» і «Медаль за вайну 1939—45 гг.» уручыў былому малодшаму капралу польскай дывізіі ў брытанскай арміі ваенны аташэ пасольства Вялікабрытаніі ў СССР брыгадны генерал У. Дж. Бітлс.

Вайна застала Сцяпана Сцяпанавіча ў Куйбышаве, куды з роднай вёскі Дубаўшчына Глыбоцкага раёна прыехаў ён з таварышамі на камсамольскую будоўлю. Там і запісаўся ў польскую дывізію, якая фарміравалася. У яе складзе разам з сотнямі савецкіх грамадзян польскай нацыянальнасці храбра ваяваў Сідаронак у англійскай арміі пад камандаваннем фельдмаршала Бернарда Лоў Мантгомеры з нацыстамі ў Італіі.

Драматычна склаўся лёс ветэрана пасля перамогі. Настойлівыя звароты да савецкіх дыпламатаў у Лондане дапамаглі Сідаронку ў 1947 годзе разам з іншымі суайчыннікамі пакінуць так званы «польскі корпус працаўладкавання дэмабілізаваных» і вярнуцца на радзіму.

Першым, хто сустрэў у роднай Дубаўшчыне салдата-антыфашыста, быў следчы НКУС. У пастаянным страху за далейшы лёс пражыў Сідаронак да 1952 года, калі ў яго былі адабраны ўсе польскія ўзнагароды, а сам ён без суда разам з сям'ёй высланы ў Іркуцкую вобласць.

...Не раз шчымела сэрца ветэрана ў дні святкавання Перамогі, калі чацвёра ўнукаў-школьнікаў прасілі: «Надзень, дзядуля, медалі, ты ж ваяваў з Гітлерам...» І аднойчы не вытрымаў, напісаў у Лондан. Аказалася, што яго даўно шукаюць, каб уручыць адразу чатыры брытанскія ваенныя ўзнагароды.

У Беларусі пражываюць сотні ветэранаў вайны, узнагароджаных баявымі ордэнамі і медалямі Польшчы, Францыі, ЗША, Вялікабрытаніі і іншых краін — членаў антыгітлераўскай кааліцыі. Цяпер мы ведаем яшчэ аб адным.

**У. БЕРАЖКОЎ.**







**Вялікія сацыяльныя перамены адбыліся апошнім часам у вёсцы Радзюкі — цэнтральнай сядзібе саўгаса імя Маркава Шаркоўшчынскага раёна. Тут пабудаваны ўчастковая бальніца, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання і гандлёвы цэнтр, дзе размясціліся сучасныя прадуктовыя і прамтаварныя магазіны, кафэ.**

**Цяпер жыхары Радзюкоў і навакольных вёсак могуць заказаць абноўку ў сваім атэлье, зрабіць прычоску ў саўгаснай цырульні, наведаць кафэ.**

**НА ЗДЫМКУ: комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання ў вёсцы Радзюкі; у новым кафэ: прыёмшчыца заказаў комплекснага прыёмнага пункта М. АНАНІЧ і закройшчыца М. ЧАРНЯЎСКАЯ за работай.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА і А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ

# *ДОМ МОЖНА «ВЫЛЕЧЫЦЬ»*

Усяго некалькі гадоў назад гэтае пытанне нават не ўзнікала. Лічылася, што непрыгожыя пяціпавярховыя панельныя дамы, якія пабудаваны ў 60-я гады, павінны дажыць свой век. Не бачылі сэнсу нават у іх грунтоўным рамонце, паколькі яны не толькі фізічна знасіліся, але і маральна ўстарэлі: нязручная планіроўка кватэр, маленькія пакоі, нізкія столі, амаль ніякіх падсобных памяшканняў.

Але, з другога боку, трэба ж дапамагчы людзям, якія жывуць у іх. Як? Даць новыя кватэры? У бліжэйшыя гады немагчыма: у Мінску, напрыклад, тысячы сямей маюць патрэбу ў жыллі.

І ўсё ж выйсце знойдена. Не самае таннае, але, бадай, адзіна правільнае: правесці рэканструкцыю старых дамоў, зрабіць іх больш сучаснымі і зручнымі для жылля.

Былі ў гэтай ідэі і праціўнікі. Але стара[illegible]ы эканамічны разлік паказаў, што пасля «лячэння» дамы будуць жыць яшчэ доўгія гады і радаваць людзей, таму што кватэры ў іх стануць адпавядаць сённяшнім запатрабаванням.

Колькасць такіх кватэр, натуральна, паменшыцца, і частка сямей пераселіцца ў новыя дамы. Але за кошт кватэр, што вызваляцца, плошча астатніх пашырыцца: праходныя пакоі стануць ізаляванымі, сумешчаныя санвузлы — раздзельнымі, кухні вырастуць за кошт былых балконаў, замест якіх з'явяцца жалезабетонныя прыстаўныя лоджыі. А кватэры пятага паверха будуць нават двух'яруснымі — у пакоі ператворацца гарышчы, якія цяпер пустуюць.

Прадугледжваецца таксама ўстаноўка рэгулятараў халоднай і гарачай вады, значнае ўцяпленне вонкавых сценавых панелей, прыстасаванне двайной герметызацыі вокнаў. План перабудовы ўжо ўвасабляецца ў жыццё: ідуць работы ў доме № 21 па вуліцы Асіпенкі, рыхтуюцца да рэканструкцыі яшчэ некалькі пабудоў.

Ці задаволены насельнікі такіх дамоў вырашэннем іх жыллёвых праблем?

— Вядома, — гаворыць ткачыха Настасся Вераменкава. — Мяркуючы па праектах, з якімі нас знаёмілі, новыя кватэры ў гэтых пяціпавярхоўках амаль ні ў чым не будуць уступаць самаму сучаснаму жыллю. Пры гэтым мы яшчэ і ў выйгрышы застанёмся: Мінск разроссяя, новыя мікраараёны размешчаны далёка, а нашы — у самым цэнтры горада. Так што мы задаволены і з радасцю чакаем наваселляў у сваіх старых дамах.

**Наталля БУЛДЫК.**

# Выступленне М. С. ГАРБАЧОВА ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).**

Мы, зразумела, далёкія ад прэтэнзій на абсалютную ісціну. Але, падвергнуўшы строгаму аналізу ранейшыя і навейшыя рэальнасці, мы прыйшлі да вываду, што менавіта на такіх падыходах трэба сумесна шукаць шлях **да вяршэнства агульначалавечай ідэі** над незлічоным мноствам цэнтрабежных сіл, да захавання жыццяздольнасці цывілізацыі, магчыма, адзінай у Сусвеце.

Ці няма тут пэўнай рамантыкі, перабольшання магчымасцей, сталасці грамадскай свядомасці ў свеце? Такія сумненні і такія пытанні мы чуем і ў сябе дома, і ад некаторых заходніх партнёраў.

Перакананы, што мы не адрываемся ад рэальнасцей.

У свеце ўжо склаліся сілы, якія так або інакш пабуджаюць **да ўступлення ў мірны перыяд.** Народы, шырокія колы грамадскасці сапраўды горача жадаюць змянення становішча спраў да лепшага, хочуць вучыцца супрацоўнічаць.

Іншы раз нават здзіўляе, наколькі моцнай з'яўляецца такая тэндэнцыя. І важна, што падобнага роду настрої пачынаюць трансфарміравацца ў палітыку.

Змяненне ў філасофскіх падыходах і ў палітычных адносінах — сур'ёзная прадпасылка для таго, каб, апіраючыся на аб'ектыўныя працэсы сусветнага маштабу, даць магутны імпульс намаганням, накіраваным на ўстанаўленне новых адносін паміж дзяржавамі.

Адпаведныя вывады робяць нават тыя палітыкі, чыя дзейнасць была ў свой час звязана з «халоднай вайной», часам з самымі вострымі яе этапамі. Каму-каму, а ім асабліва цяжка адмовіцца ад стэрэатыпаў, ад вопыту тых часоў.

І калі нават яны робяць такі паварот, то відавочна, што з прыходам новых пакаленняў магчымасцей будзе яшчэ больш.

Словам, разуменне неабходнасці мірнага перыяду прабівае сабе дарогу і становіцца пануючай тэндэнцыяй. У выніку сталі магчымымі і першыя рэальныя крокі ў справе аздараўлення міжнароднай сітуацыі і разбраення.

Што з гэтага вынікае ў практычным плане? Натуральным і разумным было б не адмаўляцца ад таго станоўчага, што ўжо набыли, рухаць наперад усё пазітыўнае, што дасягнута ў апошнія гады, створана сумеснымі намаганнямі.

Я маю на ўвазе перагаворны працэс па праблемах ядзернай зброі, звычайных узбраенняў, хімічнай зброі, пошук палітычных падыходаў да спынення рэгіянальных канфліктаў.

І, зразумела, у першую чаргу — палітычны дыялог, больш інтэнсіўны, больш адкрыты, нацэлены на сутнасць праблем, а не на канфрантацыю, на абмен не абвінавачваннямі, а канструктыўнымі меркаваннямі. Без палітычнага дыялога перагаворны працэс не пойдзе.

На наш погляд, ёсць даволі аптымістычныя перспектывы на блізкую і на больш аддаленую будучыню.

Паглядзіце, як змяніліся нашы адносіны з ЗША. Мала-памалу стала складвацца ўзаемаразуменне, узніклі элементы давер'я, без чаго ў палітыцы вельмі цяжка ісці наперад.

Яшчэ больш гэтых элементаў у Еўропе. Хельсінкскі працэс — вялікі працэс. На маю думку, ён поўнасцю застаецца ў сіле. Яго неабходна захаваць і паглыбляць ва ўсіх аспектах — і ў філасофскім, і ў палітычным, і ў практычным, але — з улікам новых акалічнасцей.

Рэальнасці цяпер такія, што дыялог, які забяспечвае нармальны і канструктыўны ход міжнароднага працэсу, мае патрэбу ў пастаянным і актыўным удзеле ўсіх краін і рэгіёнаў свету: і такіх буйнейшых велічынь, як Індыя, Кітай, Японія, Бразілія, і іншых — вялікіх, сярэдніх, малых.

Я — за дынамізацыю палітычнага дыялога, за яго змястоўны характар, за ўмацаванне палітычных прадпасылак, неабходных для паляпшэння міжнароднай атмасферы. Тады аблегчыцца і практычнае вырашэнне многіх праблем. Справа цяжкая, але неабходна ісці менавіта такім шляхам.

Усе павінны ўдзельнічаць у руху да большага адзінства свету.

Цяпер гэта асабліва важна. Бо наступае вельмі важны момант, калі на парадак дня паўстае пытанне аб шляхах забеспячэння салідарнасці свету, стабільнасці і дынамічнага характару міжнародных адносін.

Між тым, гутарачы з замежнымі дзяржаўнымі і палітычнымі дзеячамі,— а ў мяне такіх гутарак было больш за дзвесце,— я часам адчуваў іх незадаволенасць тым, што на гэтым надзвычай адказным этапе, у сілу тых ці іншых прычын, яны часам аказваюцца як бы ўбаку ад галоўных пытанняў сусветнай палітыкі.

Натуральна і правільна, што ніхто не хоча з гэтым мірыцца.

Калі мы з'яўляем[illegible]сткамі, няхай рознымі, адно[illegible] той жа цывілізацыі, калі мы разумеем узаемазалежнасць сучаснага свету, то гэта павінна ўсё больш прысутнічаць і ў палітыцы, у практычных намаганнях па гарманізацыі міжнародных адносін. Можа, не в[illegible] падыходзіць у даным выпадку тэрмін «перабудова», але я сапраўды выказваюся за **новыя міжнародныя адносіны.**

Перакананы, што час, рэаліі сучаснага свету патрабуюць рабіць стаўку на **інтэрнацыяналізацыю** дыялога і перагаворнага працэсу.

Гэта **галоўны, абагульняючы вывад,** да якога мы прыйшлі, вывучаючы сусветныя працэсы, што набіраюць сілу ў апошні час, і ўдзельнічаючы ў сусветнай палітыцы.

## II.

У гэтай канкрэтнай гістарычнай сітуацыі паўстае пытанне і аб новай ролі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Нам здаецца, ёсць неабходнасць пэўнага пераасэнсавання дзяржавамі сваіх адносін да такога ўнікальнага інструмента, як ААН, без якой ужо немагчыма сабе ўявіць сусветную палітыку.

Актывізацыя ў апошні час яе міратворчай ролі зноў прадэманстравала здольнасці ААН дапамагаць сваім членам спраўляцца з грознымі выклікамі часу, ісці па шляху гуманізацыі адносін.

На жаль, адразу пасля свайго стварэння яна аказалася пад націскам «халоднай вайны». На доўгія гады ператваралася ў поле для прапагандысцкіх бітваў і культывавання палітычнай канфрантацыі.

Няхай гісторыкі спрачаюцца аб тым, хто больш, а хто менш у гэтым вінаваты. А палітыкам сёння трэба засвоіць урокі гэтай главы ў гісторыі Аб'яднаных Нацый, якая аказалася ў супярэчнасці з самой сутнасцю і прызначэннем ААН.

Адзін з самых горкіх і важных урокаў — доўгі спіс упушчаных магчымасцей. І, як вынік, зніжэнне на нейкім этапе аўтарытэту ААН, безвыніковасць многіх яе спроб дзейнічаць.

Вельмі паказальна, што адраджэнне ролі ААН звязана з паляпшэннем міжнароднага клімату.

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый як бы ўбірае ў сябе інтарэсы розных дзяржаў. І яна — адзіная, хто ў стане сумясціць у агульным патоку іх намаганні — двухбаковыя, рэгіянальныя і ўсёабдымныя.

Перад ёй адкрываюцца новыя магчымасці ва ўсіх сферах, якія натуральна ўваходзяць у кампетэнцыю ААН: ваенна-палітычнай, эканамічнай, навукова-тэхнічнай, экалагічнай, гуманітарнай.

Узяць хоць бы **праблему развіцця.** Гэта сапраўды агульначалавечая праблема. Становішча проста небяспечнымі для ўсяго чалавецтва ўмовы існавання, у якіх знаходзяцца дзесяткі мільёнаў людзей у радзе раёнаў «трэцяга свету».

Ніякія замкнутыя ўтварэнні, ні нават рэгіянальныя супольніцтвы дзяржаў, пры ўсім іх значэнні, не ў стане развязаць галоўных вузлоў, якія ўтварыліся на асноўных лініях сусветных эканамічных сувязей: Поўнач — Поўдзень, Усход — Захад, Поўдзень — Поўдзень, Поўдзень — Усход, Усход — Усход.

Тут неабходны аб'яднаныя намаганні, патрэбен улік інтарэсаў усіх груп краін. А гэта ў стане забяспечыць толькі такая арганізацыя, як ААН.

Найвастрэйшая з праблем — **знешні доўг.**

Давайце не забываць, што свет, які стаў на шлях развіцця, цаной незлічоных страт і ахвяр у каланіяльную эпоху авансаваў працвітанне немалой часткі сусветнага супольніцтва. Настаў час кампенсаваць нястачы, якімі суправаджаўся гэты яго гістарычны і трагічны ўклад у сусветны матэрыяльны прагрэс.

Выхад, мы перакананы, — таксама ў **інтэрнацыяналізацыі падыходу.**

Рэальна гледзячы на рэчы, трэба прызнаць: доўг, які накапіўся, не можа быць ні аплачаны, ні спагнаны на першапачатковых умовах.

Савецкі Саюз гатоў устанавіць працяглы, аж да 100 гадоў, мараторый на выплату запазычанасці найменш развітых краін, а ў цэлым радзе выпадкаў — спісаць яе поўнасцю.

Што датычыць **іншых краін, якія сталі на шлях развіцця,** то запрашаем разгледзець наступнае:

— абмежаваць плацяжы па іх афіцыяльнай запазычанасці ў залежнасці ад паказчыкаў эканамічнага развіцця кожнай з іх або аб'явіць працяглую адтэрміноўку значнай часткі плацяжоў;

— падтрымаць зварот Канферэнцыі ААН па гандлю і развіццю аб скарачэнні запазычанасці камерцыйным банкам;

— забяспечыць урадавую падтрымку рыначным механізмам урэгулявання запазычанасці «трэцяга свету», уключаючы стварэнне спецыялізаванай міжнароднай установы па скупцы даўгоў са скідкай.

Савецкі Саюз выступае за прадметнае абмеркаванне шляхоў урэгулявання даўгавога крызісу на шматбаковых форумах, уключаючы правядзімыя пад эгідай ААН кансультацыі кіраўнікоў урадаў краін-даўжнікоў і крэдытораў.

Міжнародная эканамічная бяспека немагчыма без сувязі не толькі з разбраеннем, але і з **вызначэннем сусветнай экалагічнай пагрозы.** Сітуацыя з экалогіяй у радзе рэгіёнаў проста страшыць.

На 1992 год запланавана ў рамках ААН Канферэнцыя па навакольнаму асяроддзю. Мы вітаем гэта рашэнне і рыхтуемся да таго, каб такі форум прынёс вынікі, адэкватныя маштабу праблемы.

Але час не чакае. Робіцца ў розных краінах нямала. Тут я хачу бы толькі яшчэ раз з усёй сілай падкрэсліць магчымасці, якія адкрываюцца для экалагічнага адраджэння ў працэсе разбраення, перш за ўсё, ядома, — ядзернага.

Давайце таксама падумаем: ці не трэба стварыць пры ААН цэнтр тэрміновай экалагічнай дапамогі? Яго функцыі заключаліся б у тым, каб аператыўна накіроўваць у раёны рэзкага пагаршэння экалагічнай абстаноўкі міжнародныя групы спецыялістаў.

Савецкі Саюз гатоў супрацоўнічаць і ў стварэнні міжнароднай касмічнай лабараторыі або пілатуемай арбітальнай станцыі, якая займалася б выключна кантролем за станам прыроды.

Наогул **у асваенні космасу** ўсё больш выразна выступаюць рысы будучай касмічнай індустрыі.

Вядома пазіцыя Савецкага Саюза: дзейнасць у космасе павінна выключаць выхад туды са зброяй. Для гэтага таксама патрэбна прававая база. Аснова ў яе ёсць — Дагавор 1967 года і іншыя пагадненні.

Аднак ужо наспела неабходнасць распрацаваць усёабдымны [illegible]кым мірнай работы ў космас[illegible]нтроль жа за захаваннем рэжыму быў бы справай сусветнай касмічнай арганізацыі.

Прапанову аб яе стварэнні мы ўжо не раз выказвалі. У сістэму гэтай арганізацыі мы гатовы ўключыць і нашу Краснаярск[illegible]ЛС. Прынята ўжо рашэнн[illegible] аб перадачы гэтай станцыі Акадэміі навук СССР.

Савецкія вучоныя гатовы прыняць зарубежных калег і абмеркаваць з імі, як пераабсталяваць яе ў міжнародны цэнтр мірнага супрацоўніцтва, дэманціраваўшы і перарабіўшы асобныя сродкі і збудаванні, а таксама даўкамплектаваць нехапаючым абсталяваннем.

Уся гэта сістэма магла б функцыяніраваць пад эгідай ААН.

Увесь свет вітае намаганні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, генеральнага сакратара Перэса дэ Куэльяра і яго прадстаўнікоў па развязванню **рэгіянальных вузлоў.**

Дазвольце некалькі затрымацца на гэтай тэме.

Перафразіраваўшы вершы англійскага паэта, якія Хэмінгуэй узяў эпіграфам да свайго вядомага рамана, скажу так: звон кожнага рэгіянальнага канфлікту звоніць па ўсіх нас.

Гэта асабліва правільна таму, што канфлікты гэтыя адбываюцца ў «трэцім свеце», у якога і без таго многа бед і праблем такога маштабу, што гэта не можа не хваляваць нас усіх.

1988 год прынёс і на гэтым напрамку нашых агульных клопатаў праблеск надзеі. Яна закранула амаль усе рэгіянальныя крызісы, і дзе-нідзе ёсць зрухі. Мы іх вітаем, у меру сваіх магчымасцей садзейнічалі ім.

Спецыяльна спынюся толькі на Афганістане.

Жэнеўскія пагадненні, прынцыповае і практычнае значэнне якіх высока было ацэнена ва ўсім свеце, давалі магчымасць завяршыць урэгуляванне нават у гэтым годзе. Гэтага не адбылося.

І гэты сумны факт зноў напамінае аб палітычнай, юрыдычнай і маральнай значнасці старажытнарымскай максімы: Pacta sunt servanda! — Дагаворы павінны выконвацца!

Не хачу выкарыстоўваць гэту трыбуну для папрокаў у чыйнебудзь адрас.

Але нам уяўляецца, што ў рамках кампетэнцыі ААН можна было б дапоўніць лістападаўскую рэзалюцыю Генеральнай Асамблеі некаторымі канкрэтнымі мерамі.

Гаворачы словамі рэзалюцыі, — «для неадкладнага дасягнення ўсёабдымнага вырашэння самімі афганцамі пытання аб урадзе на шырокай аснове», — зрабіць наступнае:

— з 1 студзеня 1989 года поўнасцю і паўсюдна спыніць агонь і ўсе наступальныя аперацыі або абстрэлы, захоўваючы на час перагавораў усе займаемыя працівастаячымі афганскімі групоўкамі тэрыторыі пад іх кантролем;

— ва ўвязцы з гэтым з таго ж дня спыняюцца пастаўкі зброі ўсім варагуючым бакам;

— на перыяд станаўлення ўрада на шырокай аснове, прадугледжваемага ў рэзалюцыі Генасамблеі, накіраваць у Кабул і іншыя стратэгічныя цэнтры краіны кантынгент сіл ААН па падтрыманню міру;

— мы таксама звяртаемся да генеральнага сакратара ААН з просьбай садзейнічаць хутчэйшай рэалізацыі ідэі аб правядзенні міжнароднай канферэнцыі па нейтралітэту і дэмілітарызацыі Афганістана.

Мы будзем і ў далейшым самым актыўным чынам дапамагаць залечваць раны вайны, гатовы супрацоўнічаць у гэтай справе і з ААН, і на двухбаковай аснове.

Падтрымліваем прапанову аб стварэнні пад эгідай ААН добраахвотнага міжнароднага корпуса міру для садзейнічання адраджэнню Афганістана.

У сувязі з праблемай урэгулявання рэгіянальных канфліктаў не магу не выказаць свайго меркавання аб сур'ёзным інцыдэнце, які меў месца зусім нядаўна ў сувязі з работай гэтай сесіі.

Прадстаўнік арганізацыі, якая мае статус пастаяннага назіральніка пры ААН, не быў дапушчаны ўладамі Злучаных Штатаў у Нью-Йорк для выступлення на Генеральнай Асамблеі. Размова ідзе пра Ясіра Арафата.

Мы выказваем глыбокае шкадаванне ў сувязі з тым, што адбылося, і сваю салідарнасць з Арганізацыяй вызвалення Палесціны.

Панове! Канцэпцыя ўсёабдымнай міжнароднай бяспекі базіруецца на прынцыпах Статута ААН і зыходзіць з абавязковасці **міжнароднага права** для ўсіх дзяржаў.

Выступаючы за дэмілітарызацыю міжнародных адносін, мы хочам бачыць палітыка-прававыя метады пануючымі пры вырашэнні ўзнікаючых праблем.

Наш ідэал — сусветнае супольніцтва прававых дзяржаў, якія і сваю знешнепалітычную дзейнасць падпарадкоўваюць праву.

Дасягненню гэтага садзейнічалі б дагаворанасць у рамках ААН аб аднолькавым разуменні прынцыпаў і норм міжнароднага права, іх кадыфікацыя з улікам новых умоў, а таксама распрацоўка прававых норм для новых сфер супрацоўніцтва. Ва ўмовах ядзернага веку дзейснасць міжнароднага права павінна апірацца не на прымушэнне да выканання, а на нормы, якія адлюстроўваюць баланс інтарэсаў дзяржаў.

Разам з усё большым усведамленнем аб'ектыўнай агульнасці лёсу гэта стварала б шчырую зацікаўленасць кожнай дзяржавы ў самаабмежаванні сябе міжнародным правам.

Дэмакратызацыя міжнарод-

ных адносін — гэта не толькі максімальная інтэрнацыяналізацыя вырашэння праблем усімі членамі сусветнага супольніцтва. Гэта таксама **і гуманізацыя** гэтых адносін.

Міжнародныя сувязі толькі тады будуць спаўна адлюстроўваць сапраўдныя інтарэсы народаў і надзейна служыць справе іх агульнай бяспекі, калі ў цэнтры ўсяго будзе чалавек, яго клопаты, правы і свабоды.

У гэтым кантэксце я хацеў бы далучыць голас сваёй краіны да высокіх ацэнак значэння Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятай сорак гадоў назад, 10 снежня 1948 года.

Гэты дакумент актуальны і сёння. У ім таксама знайшоў адлюстраванне універсальны характар мэт і задач ААН.

Самы лепшы спосаб для дзяржавы адзначыць юбілей дэкларацыі—палепшыць у сябе дома ўмовы для захавання і абароны правоў сваіх грамадзян.

Перш чым паведаміць вам, што менавіта мы зрабілі ў гэтым сэнсе ў апошні час, я хацеў бы сказаць наступнае:

Наша краіна перажывае сапраўды рэвалюцыйны ўздым. Працэс перабудовы набірае тэмпы. Мы пачалі з выпрацоўкі тэарэтычнай канцэпцыі перабудовы. Трэба было ацаніць характар і маштабы праблем, асэнсаваць урокі мінулага і выразіць гэта ў выглядзе палітычных вывадаў і праграм. Гэта было зроблена.

Тэарэтычная работа, пераасэнсаванне таго, што адбываецца, дапрацоўка, узбагачэнне, карэкціроўка палітычных пазіцый не закончаны. Яны працягваюцца.

Але прынцыпова важна было пачаць менавіта з агульнай канцэпцыі, якая, як цяпер пацвярджае ўжо і вопыт мінулых гадоў, аказалася ў цэлым правільнай, і альтэрнатывы ёй няма.

Каб уключыць грамадства ў рэалізацыю планаў перабудовы, запатрабавалася яго дэмакратызацыя на справе. Пад знакам дэмакратызацыі перабудова ахапіла цяпер і палітыку, і эканоміку, і духоўнае жыццё, ідэалогію.

Мы разгарнулі радыкальную эканамічную рэформу. Набылі вопыт. І з новага года ўжо ўсю народную гаспадарку пераводзім на новыя формы і метады работы. Гэта разам з тым азначае глыбокую рэарганізацыю вытворчых адносін і рэалізацыю велізарнага патэнцыялу, закладзенага ў сацыялістычнай уласнасці.

Ідучы на такія смелыя рэвалюцыйныя пераўтварэнні, мы разумелі, што будуць і памылкі, узнікне і супраціўленне, навізна народзіць новыя праблемы, прадбачылі і магчымасць тармажэння ў асобных звеннях.

Аднак гарантыяй таго, што агульны працэс перабудовы будзе няўхільна ісці наперад і набіраць сілу, з'яўляецца глыбокая дэмакратычная рэформа ўсёй сістэмы ўлады і кіравання.

Нядаўнімі рашэннямі Вярхоўнага Савета СССР аб папраўках да Канстытуцыі, прыняццем Закона аб выбарах мы завяршылі першы этап працэсу палітычнай рэформы.

І без усякай паўзы ўступілі ў другі яго этап, на якім важнейшай задачай будзе адпрацоўка ўзаемадзеяння паміж цэнтрам і рэспублікамі, урэгуляванне міжнацыянальных адносін на прынцыпах ленінскага інтэрнацыяналізму, завешчаных нам вялікай рэвалюцыяй, і разам з тым—рэарганізацыя ўлады Саветаў на месцах.

Наперадзе ў нас велізарная работа. Адначасова прыйдзецца вырашаць буйнейшыя задачы.

Мы поўныя ўпэўненасці. Мы маем і тэорыю, і палітыку, і авангардную сілу перабудовы — партыю, якая таксама перабудоўвае сябе ў адпаведнасці з новымі задачамі і карэннымі пераменамі ва ўсім грамадстве.

І галоўнае—за перабудову ўсе народы і ўсе пакаленні грамадзян нашай вялікай краіны.

Мы грунтоўна паглыбіліся ў справу будаўніцтва прававой сацыялістычнай дзяржавы. Падрыхтавана або знаходзіцца ў стадыі завяршэння цэлая серыя новых законаў.

Многія ўступяць у сілу ўжо ў 1989 годзе, і мы разлічваем — будуць адпавядаць самым высокім стандартам з пункту погляду забеспячэння правоў асобы.

Савецкая дэмакратыя набудзе трывалую нарматыўную базу. Размова ідзе аб такіх актах, як законы аб свабодзе веравызнання, аб публічнасці, аб грамадскіх аб'яднаннях і арганізацыях, аб многім іншым.

У месцах зняволення няма людзей, асуджаных за свае палітычныя і рэлігійныя перакананні.

У праекты новых законаў прадугледжваецца ўключыць дадатковыя гарантыі, якія выключалі б любыя формы праследавання па гэтых матывах.

Гэта, зразумела, не адносіцца да тых, хто ўчыніў рэальнае крымінальнае або дзяржаўнае злачынства (шпіянаж, дыверсія, тэрарызм і да т. п.), якіх бы палітычных і светапоглядных думак яны ні прытрымліваліся.

Праект змяненняў у крымінальным кодэксе гатоў і чакае сваёй чаргі. Пераглядаюцца, у прыватнасці, артыкулы, звязаныя з прымяненнем вышэйшай меры пакарання.

У гуманным духу вырашаецца праблема выезду і ўезду, у тым ліку і пытанне аб выездзе за граніцу па матывах уз'яднання са сваякамі.

Як вядома, адной з[illegible]ычын адмоў з'яўляецца [illegible]рмаванасць грамадзян у сакрэтах. Наперад уводзяцца строга абгрунтаваныя тэрміны даўнасці ведання сакрэтаў.

Пры паступленні на работу ў адпаведную ўстанову або на прадпрыемства кожна[illegible] будзе даводзіцца да ве[illegible] гэта правіла. Узнікаючыя спрэчкі могуць быць абскарджаны **па закону.**

Тым самым знімаецца праблема так званых «адмоўнікаў».

Мы маем намер расшырыць удзел Савецкага Саюза ў кантрольных механізмах па правах чалавека пры ААН і ў рамках агульнаеўрапейскага працэсу. Мы лічым—юрысдыкцыя Міжнароднага суда ў Гаазе адносна тлумачэння і прымянення пагадненняў у галіне правоў чалавека павінна быць абавязковай для ўсіх дзяржаў.

У кантэксце хельсінкскага працэсу разглядаем і зняцце перашкод для перадач усіх замежных радыёстанцый, якія вяшчаюць на Савецкі Саюз.

У цэлым наша крэда такое: палітычныя праблемы вырашаць толькі палітычнымі сродкамі, чалавечыя — толькі пачалавечы.

# III.

Цяпер аб самым галоўным, без чаго ніякія праблемы надыходзячага стагоддзя не могуць быць вырашаны,—**аб раззбраенні.**

Міжнароднае развіццё і кантакты дэфармаваны гонкай узбраенняў і мілітарызацыяй мыслення.

Савецкі Саюз 15 студзеня 1986 года абвясціў, як вядома, праграму пабудовы бяз'ядзернага свету. Яе ўвасабленне ў рэальныя перагаворныя пазіцыі ўжо дало свой матэрыяльны плён.

Заўтра спаўняецца першая гадавіна падпісання Дагавора аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці. З яшчэ большым задавальненнем я гавару аб тым, што рэалізацыя гэтага дагавора—знішчэнне ракет—праходзіць нармальна, у атмасферы давер'я і дзелавітасці.

У, здавалася б, непрабіваемай сцяне падазронасці і варожасці ўтварыўся вось такі пралом. І ў нас на вачах узнікае новая гістарычная рэальнасць — **паварот ад прынцыпу звышузброенасці да прынцыпу разумнай дастатковасці для абароны.**

Мы прысутнічаем пры першых праблісках фарміравання новай мадэлі забеспячэння бяспекі—не з дапамогай нарошчвання ўзбраенняў, як было амаль заўсёды, а, наадварот, за кошт іх скарачэння на кампраміснай аснове.

Савецкае кіраўніцтва вырашыла яшчэ раз прадэманстраваць сваю гатоўнасць умацоўваць гэты здаровы працэс не толькі словам, але **і справай.**

Сёння я магу паведаміць вам наступнае: Савецкі Саюз прыняў рашэнне аб скарачэнні сваіх Узброеных Сіл.

У бліжэйшыя два гады іх колькасны састаў зменшыцца на 500 тысяч чалавек, істотна скароціцца і аб'ём звычайных узбраенняў. Гэтыя скарачэнні будуць праведзены **ў аднабаковым парадку,** без сувязі з перагаворамі па мандату Венскай сустрэчы.

Па ўзгадненню з нашымі саюзнікамі па Варшаўскаму Дагавору мы прынялі рашэнне вывесці к 1991 году з ГДР, Чэхаславакіі і Венгрыі шэсць танкавых дывізій і расфарміраваць іх.

З груп савецкіх войск, якія знаходзяцца ў гэтых краінах, будуць выведзены таксама дэсантна-штурмавыя і рад іншых злучэнняў і часцей, уключаючы дэсантна-пераправачныя з узбраеннем і баявой тэхнікай.

Савецкія войскі, якія знаходзяцца ў гэтых краінах, будуць скарочаны на 50 тысяч чалавек, а ўзбраенне—на пяць тысяч танкаў.

Усе савецкія дывізіі, якія застаюцца пакуль на тэрыторыі нашых саюзнікаў, перафарміруюцца. Ім надаецца іншая, чым сёння, структура, якая пасля буйнога выключэння з іх танкаў становіцца адназначна абарончай.

Адначасова мы скароцім колькасць асабовага саставу войск і колькасць узбраенняў і ў еўрапейскай частцы СССР.

Усяго ж у гэтай частцы нашай краіны і на тэрыторыі нашых еўрапейскіх саюзнікаў Савецкія Узброеныя Сілы будуць зменшаны на 10 тысяч танкаў, 8,5 тысячы артылерыйскіх сістэм, 800 баявых самалётаў.

За гэтыя два гады мы істотна зменшым групоўку Узброеных Сіл таксама і ў азіяцкай частцы краіны. Па ўзгадненню з урадам Мангольскай Народнай Рэспублікі значная частка часова размешчаных там савецкіх войск вернецца на радзіму.

Прымаючы гэтыя прынцыповай важнасці рашэнні, савецкае кіраўніцтва выражае волю народа, занятага глыбокім абнаўленнем усяго свайго сацыялістычнага грамадства.

Мы будзем падтрымліваць абараназдольнасць краіны на ўзроўні разумнай і надзейнай дастатковасці, каб ні ў кога не ўзнікла спакуса рабіць замах на бяспеку СССР і яго саюзнікаў.

Гэтай сваёй акцыяй, як і ўсёй сваёй дзейнасцю на карысць дэмілітарызацыі міжнародных адносін, мы хацелі б прыцягнуць увагу сусветнага супольніцтва таксама і да другой актуальнай праблемы—да праблемы пераходу **ад эканомікі ўзбраенняў да эканомікі раззбраення.**

Ці рэальная канверсія ваеннай вытворчасці? Мне ўжо прыходзілася аб гэтым гаварыць. Мы лічым, што — так, рэальная.

Са свайго боку Савецкі Саюз гатоў:

— у рамках эканамічнай рэформы мы гатовы распрацаваць і прадставіць свой унутраны план канверсіі;

— на працягу 1989 года падрыхтаваць у якасці эксперыменту планы канверсіі двухтрох абаронных прадпрыемстваў;

— апублікаваць свой вопыт працаўладкавання спецыялістаў з ваеннай прамысловасці, а таксама выкарыстання яе абсталявання, будынкаў і збудаванняў у грамадзянскай вытворчасці.

Пажадана, каб усе дзяржавы, у першую чаргу буйныя ваенныя дзяржавы, прадставілі ў ААН свае нацыянальныя планы наконт гэтага.

Было б карысна таксама сфарміраваць групу вучоных, даручыўшы ёй паглыблены аналіз праблем канверсіі ў цэлым і прымяняльна да асобных краін і рэгіёнаў для даклада Генеральнаму сакратару ААН.

У далейшым — разгледзець гэта пытанне на сесіі Генеральнай Асамблеі.

# IV.

І нарэшце. Знаходзячыся на амерыканскай зямлі, але таксама і па іншых зразумелых прычынах я не магу не звярнуцца да тэмы нашых адносін з гэтай вялікай краінай. Яе гасціннасць я ў поўнай меры мог ацаніць у час памятнага візіту ў Вашынгтон роўна год назад.

Адносіны паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі Амерыкі налічваюць пяць з палавінай дзесяцігоддзяў. Мяняўся свет—мяняліся і характар, роля, месца гэтых адносін у сусветнай палітыцы.

Вельмі доўга яны будаваліся пад знакам канфрантацыі, а часам варожасці—то адкрытай, то скрытай.

Але ў апошнія гады ва ўсім свеце змаглі ўздыхнуць з палёгкай дзякуючы змяненням да лепшага ў сутнасці і атмасферы ўзаемаадносін паміж Масквой і Вашынгтонам.

Ніхто не збіраецца недаацэньваць сур'ёзнасці рознагалоссяў і цяжкасці неўрэгуляваных п[illegible]лем. Аднак мы ўжо пра[illegible] пачатковую школу навучання ўзаемаразуменню і пошуку развязак ва ўласных і агульных інтарэсах.

СССР і ЗША стварылі буйнейшыя ракетна-ядзерныя арсеналы. І менавіта яны здолелі, прадметн[illegible] свядоміўшы сваю адказнас[illegible] стаць першымі, хто заключыў пагадненне аб скарачэнні і фізічным знішчэнні часткі гэтых узбраенняў, якія пагражалі як ім самім, так і ўсім іншым.

Абедзве краіны валодаюць самымі вялікімі і самымі вытанчанымі ваеннымі сакрэтамі. Але менавіта яны залажылі аснову і развіваюць сістэму ўзаемнага кантролю як за знішчэннем, так і за абмежаваннем і забаронай вытворчасці ўзбраенняў.

Менавіта яны накопліваюць вопыт для будучых двухбаковых і шматбаковых пагадненняў.

Мы гэтым даражым. Прызнаём і цэнім уклад прэзідэнта Рональда Рэйгана і членаў яго адміністрацыі, перш за ўсё пана Джорджа Шульца.

Усё гэта—капітал, укладзены сумесна ў прадпрыемства гістарычнага значэння. Ён не павінен быць страчаны або пакінуты без абарачэння.

Будучая адміністрацыя ЗША на чале з нававыбраным прэзідэнтам Джорджам Бушам знойдзе ў нас партнёра, гатовага—без доўгіх паўз і адваротных рухаў — працягваць дыялог у духу рэалізму, адкрытасці і добрай волі, з імкненнем да канкрэтных вынікаў па парадку дня, які ахоплівае вузлавыя пытанні савецка-амерыканскіх адносін і міжнароднай палітыкі.

Размова перш за ўсё ідзе аб паслядоўным руху наперад да заключэння дагавора аб 50-працэнтным скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў пры захаванні Дагавора па ПРА;

аб выпрацоўцы канвенцыі па ліквідацыі хімічнай зброі—тут, як нам здаецца, ёсць прадпасылкі зрабіць 1989 год рашаючым;

аб перагаворах па скарачэнню звычайных узбраенняў і ўзброеных сіл у Еўропе.

Размова таксама ідзе аб эканамічных, экалагічных і гуманістычных праблемах у самым шырокім аспекце.

Пазітыўныя змяненні ў міжнароднай абстаноўцы было б зусім няправільна адносіць толькі ў актыў СССР і ЗША.

Савецкі Саюз высока цэніць вялікі і арыгінальны ўклад сацыялістычных краін у працэс аздараўлення міжнароднай абстаноўкі.

У ходзе перагавораў мы пастаянна адчуваем прысутнасць іншых буйных дзяржаў, ядзерных і няядзерных.

Незаменна важную канструктыўную ролю адыгрываюць многія, у тым ліку сярэднія і малыя краіны і, вядома, Рух недалучэння, а таксама міжкантынентальная «група шасці».

Мы ў Маскве рады, што цяжар усеагульнай адказнасці гатова браць на свае плечы ўсё большая колькасць дзяржаўных, палітычных, партыйных і грамадскіх дзеячаў, і—асабліва хацеў бы адзначыць — вучоных, дзеячаў культуры, прадстаўнікоў масавых рухаў і розных цэркваў, актывістаў так званай народнай дыпламатыі.

У гэтым плане, думаю, заслугоўвае ўвагі ідэя рэгулярнага склікання пад эгідай ААН таксама і асамблеі грамадскіх арганізацый.

Мы не схільны спрашчаць становішча ў свеце.

Так, тэндэнцыя да раззбраення атрымала моцны імпульс, і гэты працэс набірае ўласную інерцыю. Але ён не стаў незваротным.

Так, імкненне адмовіцца ад канфрантацыі на карысць дыялога і супрацоўніцтва моцна заявіла аб сабе. Але яно зусім не ўмацавалася назаўсёды ў практыцы міжнародных адносін.

Так, рух да бяз'ядзернага і ненасільнага свету здольны карэнным чынам пераўтварыць палітычнае і духоўнае аблічча планеты. Але зроблены толькі самыя першыя крокі, да таго ж сустрэтыя ў пэўных уплывовых колах недавер'ем, натыкаюцца на супраціўленне.

Спадчына і інерцыя мінулага працягваюць дзейнічаць. Глыбокія супярэчнасці і карані многіх канфліктаў не зніклі.

І застаецца такі фундаментальны факт—што фарміраванне мірнага перыяду будзе праходзіць ва ўмовах існавання і саперніцтва розных сацыяльна-эканамічных і палітычных сістэм.

Аднак сэнс нашых міжнародных намаганняў, адно з ключавых палажэнняў новага мыслення заключаюцца якраз у тым, каб надаць гэтаму саперніцтву якасць разумнага спаборніцтва ва ўмовах павагі свабоды выбару і балансу інтарэсаў.

У гэтым выпадку яно стане нават карысным і прадуктыўным з пункту погляду агульнасусветнага развіцця.

Інакш — калі яго галоўным кампанентам, як да гэтага часу, застанецца гонка ўзбраенняў,—саперніцтва гібельнае.

І гэта ўсё больш пачынае разумець усё большая колькасць людзей ва ўсім свеце—ад радавых да лідэраў.

Паважаны пан Старшыня! Паважаныя дэлегаты!

Я завяршаю сваё першае выступленне ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з тым жа пачуццём, з якім пачаў яго,—з пачуццём адказнасці перад уласным народам і сусветным супольніцтвам.

Мы сустрэліся ў канцы года, які так многа значыў для Аб'яднаных Нацый, і напярэдадні года, ад якога мы ўсе так многага чакаем.

Хочацца верыць, што з нашымі надзеямі будуць супастаўныя нашы сумесныя намаганні пакончыць з эрай войнаў, канфрантацыі і рэгіянальных канфліктаў, з агрэсіяй супраць прыроды, з тэрорам голаду і галечы, як і з палітычным тэрарызмам.

Гэта наша агульная мэта, і толькі разам мы можам дасягнуць яе.

Дзякую вам.

*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# НІВЕЛІРОЎКІ ТАЛЕНТАЎ НЕ АДБЫВАЕЦЦА

Цяпер нярэдка задаецца пытанне: «Ці не з'яўляюцца перамены, што адбываюцца ў савецкім культурным жыцці, своеасаблівай рэформай «зверху», вынікам пэўнага дыктату?»

Адкажам адразу: не, не з'яўляюцца. І вось чаму. Яшчэ задоўга да таго, як слова «перабудова» і «публічнасць» набылі сённяшні сэнс, савецкая мастацкая інтэлігенцыя прадэманстравала ў сваёй большасці грамадскую сталасць, непрыняцце застойнасці, дагматызму, кансерватызму мыслення. Вядома, што многія па-сапраўднаму грамадзянскія фільмы, што ідуць сёння на шырокім экране, многія аповесці і раманы, што публікуюцца ў часопісах, ствараліся не сёння, а гадоў 10—20 назад. Яны праляжалі ў пісьменніцкіх сталах, на паліцах кінастудый з-за звышпільнасці бюракратаў-перастрахоўшчыкаў. Але не ўсе. І тады асобныя творы прабівалі брэш у перашкодах, што паўставалі перад імі, гаворачы гледачу і чытачу аб сапраўдных каштоўнасцях, аб тым, што перашкаджае руху грамадства наперад. Яшчэ тады передавыя прадстаўнікі літаратуры, тэатра, кіно актыўна выступалі за тое, што сёння называецца «перабудовай».

Але, прызнаўшы, што мастацкая інтэлігенцыя выступала і выступае за пазітыўныя перамены па ўласнай ініцыятыве, па закліку ўласнага сэрца, неабходна адказаць і на другое пытанне: а ці магла б перамагаць публічнасць так, як яна перамагае сёння, без падтрымкі партыйнага кіраўніцтва? Ці маглі б выходзіць такія смелыя і рэзкія, выкрывальныя і наватарскія творы без яго адабрэння?

Перабудова — і гэтага ніхто не скрывае — накіроўваецца партыяй, яе Цэнтральным Камітэтам. Тым не менш размова ідзе не аб рэформах «зверху». Як даволі трапна заўважыў адзін з адказных работнікаў апарату ЦК, гэтыя рэформы «падслуханы» ў грамадстве, яны «падказаны грамадскасцю ў немалой ступені дзякуючы мастацтву».

Роля мастацкай інтэлігенцыі ў падзеях, якія адбываюцца ў краіне, сапраўды вялікая. У сувязі з гэтым можна прывесці характэрныя прыклады. Адзін з апошніх — стварэнне Усесаюзнага гісторыка-асветніцкага таварыства «Мемарыял». Гэта вынік дзейнасці ініцыятыўнай групы грамадскасці па ўвекавечванню памяці ахвяр беззаконнасцей і рэпрэсій сталінізму. Мемарыяльны комплекс будзе ўключаць у сябе помнік, інфармацыйна-даследчы цэнтр з архівам, музей і бібліятэку. Нядаўна ў Маскве адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта, які ўтварыў свой рабочы орган, куды ўвайшлі прадстаўнікі арганізацый-заснавальнікаў таварыства — творчых саюзаў: архітэктараў, кінематаграфістаў, тэатральных дзеячаў, мастакоў.

Чарговыя з'езды кампазітараў, кінематаграфістаў, пісьменнікаў, тэатральных дзеячаў, мастакоў, якія прайшлі ў 1986—1988 гадах, вызначаліся духам высокай крытычнасці. Мастацкая інтэлігенцыя канстатавала: чытач і глядач сталі больш патрабавальнымі, таму што яны больш адукаваныя — адукаваныя і ў сэнсе мастацкага ўспрыняцця. Таму мастак, які хоча сумленна, з поўнай аддачай служыць гэтаму чытачу і гледачу, грамадству, народу, павінен ствараць творы, вартыя часу.

Такім чынам, перабудова ў галіне літаратуры і мастацтва — гэта перш за ўсё выдатная кніга, выдатны фільм, запамінальны спектакль. І менавіта таму перабудова, якая закранула работу ўсіх без выключэння творчых саюзаў, у першую чаргу накіравана супраць «шэрасці», кан'юнктуршчыны, параднасці, дэкларатыўнасці, дылетантызму, у абарону высокага прафесіяналізму і маралі. Гэтыя мэты мае і эксперымент, які праводзіцца больш чым у 80 тэатрах краіны Саюзам тэатральных дзеячаў, і новая мадэль кінематографа, створаная Саюзам кінематаграфістаў, і рэформы ў кнігавыдавецтве, і большы дэмакратызм у выставачнай палітыцы Саюза мастакоў.

Партыя многае зрабіла і працягвае рабіць для эфектыўнай дзейнасці творчых саюзаў. Самае галоўнае — гэта, вядома, вяртанне да ленінскіх прынцыпаў культурнай палітыкі, адмова ад адміністравання. Мастацтву прадастаўлена магчымасць самому знаходзіць выйсце з уласных крызісаў. Забароны — сёння гэта асабліва відавочна — толькі абцяжараць і затрымаюць пошук выхаду з крызісу, парушаць натуральнасць і свабоду мастацкага жыцця. Характэрна, што вельмі часта ў спрэчках паміж творчымі саюзамі і дзяржаўнымі ведамствамі партыя падтрымлівае пункт гледжання першых. Гэта здараецца тады, калі творчыя саюзы самі ўзнімаюцца да ўзроўню дзяржаўных інтарэсаў, здольны адрозніваць паняцці «дзяржаўнасць» — «ведамаснасць».

Партыя ўважліва ставіцца да запатрабаванняў мастацкай інтэлігенцыі, дапамагае творчым саюзам у іх дзейнасці. У выніку савецкі мастак можа аддаваць мастацтву ўвесь свой час, не хвалюючыся за хлеб надзённы. І за гэтую магчымасць ён зусім не адмаўляецца ад свабоды сваёй творчасці, ніякай ніверліроўкі талентаў не адбываецца. Аб гэтым гавораць фільмы, што ідуць сёння ў пракаце, цікавыя аповесці і раманы, якія з'яўляюцца на старонках літаратурных часопісаў, новыя спектаклі і адкрытыя мастацкія агляды, дзе прадстаўлены розныя напрамкі, почыркі і стылі. Выпраўляючы памылкі мінулага, перабудова ў культуры адкрывае новыя шляхі і магчымасці перад талентам, закрываючы дзверы перад кан'юнктуршчыкамі і самазванцамі ад мастацтва.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**
(АДН).

*НА МОВАХ СВЕТУ*




## БАЛГАРЫЯ

Балгарскаму чытачу вядома шмат твораў савецкіх пісьменнікаў пра зверствы гітлераўцаў у час Вялікай Айчыннай вайны. Сафійскае ваеннае выдавецтва выпусціла яшчэ адну такую кнігу — аповесць Алеся Адамовіча «Карнікі». У анатацыі да кнігі сцвярджаецца, што гэта твор «выключны з пункту погляду ідэйна-мастацкага. Аповесць беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча, — гаворыцца далей у анатацыі, — гэта кніга пра карнікаў, сфарміраваных гітлераўцамі са здраднікаў і рэнегатаў, злачынцаў, якіх выпусцілі на свабоду. Пра іх і апавяданне аўтара, насычанае выключным драматызмам і сутыкненнем лёсаў».

На балгарскую мову твор пераклала Надзя Георгіева.

## КІТАЙ

У Пекіне выйшла кніга Святланы Алексіевіч «У вайны — не жаночы твар». Выпусціла яе выдавецтва «Куньлунь чубаншэ» ў серыі «Бібліятэка перакладной замежнай літаратуры аб вайне» на кітайскую мову твор пераклаў Люй Нінсы. У анатацыі да кнігі гаворыцца, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны тысячы савецкіх дзяўчат удзельнічалі ў крывавых баях, падкрэсліваецца, што дакументальная аповесць «У вайны — не жаночы твар» праз расказы франтавічак «паказвае, як яны з наіўных дзяўчат сталі стойкімі байцамі, праўдзіва адлюстроўвае іхнія радасці, нягоды, страх і нянавісць. Выкладанне спецыфічнае, пачуцці апісаны тонка і праўдзіва, раскрыты глыбінныя слаі жаночай душы ў час вайны, створаны жывыя гераічныя вобразы жанчын, якія ваявалі на розных франтах Вялікай Айчыннай вайны».

## ПОЛЬШЧА

Варшаўскае выдавецтва «Вспулпраца» тыражом трыццаць тысяч экземпляраў выпусціла ў перакладзе ВальдэмараКівільшы на польскую мову аповесць Васіля Быкава «Яго батальён». Гэта другое выданне твора беларускага пісьменніка — раней аповесць выпусціла выдавецтва «Чытэльнік». Вядомы польскі пісьменнік Войцех Жукроўскі ў часопісе «Новэ ксёнжкі» так, у прыватнасці, сказаў пра аповесць «Яго батальён»: «Ёсць у гэтым пісанні моцная задума, гаркаватая развага пра цану той канчатковай перамогі, паказ тых безыменных, якія за яе заплацілі сваім існаваннем. Нават не любоў да радзімы, а тая душэўная гатоўнасць да поўнай самаадданасці ў выкананні загаду, і нават калі яго не стае, да адзінокага самаахвяравання, да ахвяравання жыццём, бо так трэба». Менавіта такім, сцвярджае пісьменнік, з'яўляецца герой аповесці капітан Валошын.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

*ТАПОНІМЫ—БЯСЦЭННЫЯ ПОМНІКІ ВУСНАЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ*

# ЧАМУ ТАКАЯ НАЗВА

**(Працяг. Пачатак у № 49).**

На ранняй стадыі развіцця горад (град)—агароджа, забор. Пазней горадам сталі называць любое паселішча, акружанае ўмацаваннямі: крэпасць, феадальны пасёлак, замак, княжацкую сядзібу. У перыяд знаходжання Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага з'явілася шмат гарадкоў гандлёва-прамысловага профілю па суседству з вялікакняжацкімі дварамі. Звычайна гарадкі не мелі сталага характару. Па розных прычынах большасць іх прыходзіла ў заняпад, ператваралася ў руіны. Новыя паселішчы на іх месцы часта атрымлівалі назву па папярэдніку—Быўшы Горад, Гарадзец, Гарадок, Гарадзішча. Іншы раз пры іх ёсць другі кампанент: Давыд-Гарадок, Кажан-Гарадок, Астрашыцкі Гарадок, Сёмкаў Гарадок. У большасці выпадкаў горад (град) выступае не як назва паселішча, а як элемент складаных тапонімаў: Слаўгарад, Мілаград, Стараград. Найбольш раннія звесткі аб беларускіх тапонімах з асновай «горад» адносяцца да XI стагоддзя (Гарадзец на Нёмане). На аснове вывучэння рэчавых матэрыялаў археолаг П. Лысенка прыйшоў да вываду, што дзесьці на рубяжы XI—XII стагоддзяў быў заснаваны і беларускі горад Давыд-Гарадок па ініцыятыве валынскага князя Давыда Ігаравіча. У XIV—XVII стагоддзях назвы Гарадзец, Гарадок маюць некаторыя маёнткі і фальваркі. Пэўную ролю ў станаўленні тапонімаў з асновай «горад» адыграў той факт, што ва ўмовах распаду натуральнага рынку і пераходу да таварнай гаспадаркі (XVI—XVII стагоддзі) мясцовыя гандлёвыя пункты (гарадкі) пастуопова трацілі сваё значэнне і набывалі сельскагаспадарчы накірунак або знікалі. Магчыма, такі тып гарадкоў засведчаны ў назвах, першы кампанент якіх мае агульную карнявую частку з назвай суседняга населенага пункта (цэнтра землеўладання пэўнай асобы).

Параўнаем: Давыд-Гарадок і Давыдаўка, Кажан-Гарадок і Кажановічы, Астрашыцкі Гарадок і Астрашыцы, Сёмкаў Гарадок і Сёмкава.

З развіццём феадальнага землеўладання набываюць вядомасць двары і дварцы. У межах Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай двор меў рад спецыфічных рыс. У раннефеадальны перыяд на тэрыторыі Беларусі былі двары велікакняжацкія, якія з'яўляліся гаспадарчымі і палітычнымі цэнтрамі. Побач з імі ў XIV стагоддзі пачынаюць узнікаць двары і дварцы панскія, баярскія і шляхецкія. Яны стаяць адасоблена ад іншых паселішчаў і служаць не толькі сядзібай, але і месцам пражывання, пасёлкам. У XVI—XVII стагоддзях паяўляюцца звесткі аб дварах-фермах і прамысловых дварах-станах. У лясах уводзяцца спецыяльныя двары і дварцы, прызначаныя для прыпынку караля ў час палявання.

Тапонімы з асновай двор, дварэц засведчаны ў другой палавіне XVI стагоддзя. Звычайна гэта словазлучэнні тыпу Добры Двор, Белы Двор, Манастырскі Двор, Новы Двор, Стары Двор, Задні двор. Значная частка іх часцей за ўсё мае сацыяльны сэнс: белы, высокі сведчыць аб тым, што ў двары жыве сам феадал, задні азначае двор, дзе ўтрымліваецца жывёла, новы — іншы яшчэ адзін у дадатак да старога. Тапонімы суадносныя са словам дварэц пераважна аднаслоўныя: Дварэц, Дворац, Дварцы. Большасць тапонімаў з асновай двор, дварэц узнікла ў XVII стагоддзі, калі дваровая гаспадарка пачала прыходзіць у заняпад у сувязі з развіццём таварных адносін і масавымі ўцёкамі сялян ад непасільнага прыгнёту феадалаў. На пусташах былых двароў раслі новыя паселішчы, якія па старажытнаму звычаю называліся Дварамі і Дварцамі. Ад ранейшых эпох засталіся толькі адзінкавыя тапонімы.

Пад назвай дворышча ў беларускіх і ўкраінскіх пісьмовых помніках XIV—XVI стагоддзяў засведчана арыгінальная форма сялянскага землеўладання і пасялення групы родзічаў па бацькоўскай лініі. Безумоўна, з'явілася яна значна раней, чым трапіла ў пісьмовыя крыніцы. Дворышчы-пасёлкі ў старажытнасці былі вельмі характэрныя для тых месцаў, дзе жылі беларусы, асабліва для Палесся. У другой палавіне XVI стагоддзя асновы старажытнай формы сялянскага саўладання амаль цалкам былі разбураны. Многіх дворышчаў не стала. Замест іх з'явіліся памешчыцкія двары, дварцы, маёнткі, фальваркі, сёлы, прысёлкі. Нярэдка новым паселішчам давалі назвы Дворышча або Дворышчы.

У складзе беларускіх тапонімаў досыць часта адзначаецца слова сяло і яго вытворныя. Як тып паселішча сяло вядома з X стагоддзя. Самымі старажытнымі былі сёлы княжацкіх баярвоінаў. Старабеларускія пісьмовыя помнікі XV—XVI стагоддзяў расказваюць аб феадальных і абшчынных сёлах. Пачынаючы з другой палавіны XVI стагоддзя ў заходніх беларускіх землях у сувязі з развіццём фальварачнай і дваравой гаспадаркі сяло паступова страчвае сваю функцыю сялянскага абшчыннага цэнтра і ператвараецца ў паселішча, залежнае ад феадальных двароў, дварцоў, замкаў, фальваркаў. У выніку рэформы «Устава на валокі» мноства старажытных сёл было знесена, а іх землі адышлі пад панскія сядзібы. У асобных выпадках сяло станавілася ўласнай назвай новага паселішча (Сяло). Другой крыніцай тапонімаў з'явіліся сёлы на «сырым карані», гэта значыць на лясной навіне. Лясныя сёлы былі вельмі распаўсюджанай з'явай у XIV—XVII стагоддзях. Па прычыне хуткага збяднення лясной глебы месцы іх сістэматычна мяняліся, шырока практыкавалася паўторнае засяленне пакінутых участкаў. Паселішчы на новым месцы часта іменаваліся Новым Сялом. Назву Старое Сяло атрымлівалі паселішчы на месцы ранейшага сяла. Спрыяльныя ўмовы для тапанімізацыі слова сяло

*ЦІ ПАДТРЫМАЮЦЬ ГАРАДСКІЯ ЎЛАДЫ?*

# СХОДЗІМ У «БЕЛАРУСКУЮ ХАТКУ»

Сёння я запрашаю ўсіх наведаць «Беларускую хатку». Але дзеля гэтага не трэба пераносіцца ў 1917—1920 гады, калі ў старым Мінску на Камароўцы быў клуб з такой назвай, дзе беларускай інтэлігенцыяй ставіліся п'есы, прапагандавалася родная культура, і не сустрэнем мы там незабыўнага дзядзьку Галубка. Клуб «Беларуская хатка», пра які гаворка пойдзе, знаходзіцца ў Маладзечне. А кіруе ім рабочы аднаго з мясцовых заводаў Міхась Казлоўскі.

Разам з Міхасём робім невялікую экскурсію па пакоях «Беларускай хаткі», бо кожны з іх для нас цікавы. Напрыклад, вось гэты, названы гасцёўняй-музеем. Ён быў аформлены да гадавіны з дня смерці пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. У ім шмат фотаздымкаў аўтара папулярных гістарычных раманаў і аповесцей, яго нататнік і аўтаручка, кніга з аўтографам, падараваная музею Адамам Мальдзісам.

Вельмі арыгінальны інтэр'ер у пакоі адпачынку імя Язэпа Драздовіча. На сценах — партрэт самога мастака, рэпрадукцыі яго карцін, работы самадзейных мастакоў Маладзечна. Асабліва ўражваюць прадметы традыцыйнага беларускага сялянскага побыту. Іх, дарэчы, прывёз са сваёй вёскі, дзе жыве маці, Міхась Казлоўскі.

Трэба сказаць, што «Беларуская хатка» — адзін з найбольш любімых маладзечанскай моладдзю клубаў. Часам бывае, што на нейкае пасяджэнне прыходзіць столькі людзей, што яны ледзь змяшчаюцца ў пакоі.

Што ж аб'ядноўвае членаў гэтага клуба? Хто ў яго ўваходзіць?

— Як і ў кожным сучасным прамысловым горадзе, у Маладзечне ёсць свае праблемы, — гаворыць кіраўнік клуба. — Напрыклад, праблема адпачынку. З аднаго боку, у Дамах культуры ёсць розныя гурткі, дыскатэкі. Але, бываючы на дыскатэках, моладзь пазбаўлена галоўнага — магчымасці абменьвацца думкамі, развівацца інтэлектуальна і ўзбагачацца духоўна. Як гэта ні крыўдна, але даволі значная частка маладых людзей ці замыкаецца ў сабе, ці вядзе бяздумнае жыццё. У нас, у Маладзечне, на прамысловых прадпрыемствах, працуе нямала былых вяскоўцаў. Адарваўшыся ад вёскі, яны не сталі яшчэ гараджанамі. І ўжо цураюцца сваёй мовы. Я думаю, што гэтыя негатыўныя працэсы адбываюцца не толькі ў Маладзечне.

А цяпер пра клуб. Ён якраз аб'ядноўвае людзей, якія цікавяцца гісторыяй, літаратурай, краязнаўствам. Гэта не толькі мясцовая інтэлігенцыя — мастакі, музыканты, выкладчыкі, але і многа хлопцаў і дзяўчат з рабочага асяроддзя.

Члены клуба сустракаюцца вечарамі, каб разам адзначыць нейкую знамянальную падзею, дату гісторыі. Адбываюцца тут і сустрэчы з цікавымі людзьмі. У госці ўжо прыязджалі Адам Мальдзіс, Ніл Гілевіч, Вячаслаў Адамчык, Кастусь Тарасаў, рэдакцыя часопіса «Крыніца», іншыя літаратары і навукоўцы.

Членамі суполкі ўжо арганізавана шмат вандровак. Гэта паход па Гродзеншчыне — у Навагрудак, Мір, Карэлічы, — пасля якога было праведзена пасяджэнне, дзе гаворка ішла аб захаванні помнікаў даўніны. Юбілею Язэпа Драздовіча была прысвечана вандроўка па Глыбоччыне, Шаркоўшчыне, Дзісненшчыне.

...Летні вечар. На звычайным сялянскім вазку да ракі пад'язджае моладзь: хлопцы і дзяўчаты ў нацыянальным адзенні. Народнымі песнямі і музыкай прыцягнулі яны да сябе ўвагу людзей, жадаючы паказаць усю прыгажосць і рамантычнасць купальскіх абрадаў. Было гэта ў 1984-м. Зараз свята стала традыцыйным.

— Шмат у нас сваіх талентаў, — кажа Міхась Казлоўскі, — гэта і спявачкі нашы добрыя Аня Шніткоўская і Света Косік, і Люда Гараніна, якая добра чытае вершы беларускіх аўтараў і свае, акцёраў вельмі шмат. Мы ставім п'есы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, К. Каганца. Пішам і самі тэксты п'ес. Актыўныя ўдзельнікі суполкі — прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. Напрыклад, бібліятэкар Таццяна Жыткова. Руская па нацыянальнасці, нарадзілася на Каўказе. Або Раіса Чарнаброўкіна і яе муж. Таксама рускія. Іх дачка Наташа палюбіла беларускую — здавалася б, чужую — мову і нават спрабуе на ёй пісаць вершы.

Не існуе ў членаў суполкі праблемы і з вольным часам: заўсёды занятыя цікавай і карыснай справай. Прыязджаюць да іх і школьнікі, якія цікавяцца гісторыяй і культурай Беларусі. Былі вучні навакольных школ, а таксама з Мядзеля, Вілейкі, Оршы, Мінска. І заўсёды нераўнадушнымі заставаліся ад убачанага.

Але, мне здаецца, праца гэтага клуба магла б прыносіць карысць для ўсіх жыхароў Маладзечна, калі б быў ён гарадскім. Дзеля гэтага трэбна падтрымка гаркома камсамола, гарадскіх улад. Аднак не губляе моладзь жадання прынесці карысць роднаму гораду, унесці ў яго культурнае жыццё нешта новае.

**У. ПУЧЫНСКІ.**



**НА ЗДЫМКУ:** у час аднаго з пасяджэнняў клуба.

## «ПІСАЦЬ ТРЭБА ПРАЎДУ...»

Гэтыя словы з верша беларускага савецкага паэта Міколы Засіма прагучалі на мітынгу, прысвечаным адкрыццю мемарыяльнай памятнай дошкі на адным з будынкаў у цэнтры Брэста.

У гэтыя дні яму споўнілася б 80 гадоў. У няпростай біяграфіі паэта як у люстры адбіліся лёс і спадзяванні Радзімы. Яго палымянае слова клікала на ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР, дапамагала ў барацьбе з фашызмам.

Пры жыцці паэта выйшаў усяго адзін зборнік яго вершаў. Іх сапраўдны народны дух адзначыў вядомы літаратар Міхаіл Луконін. Некалькі вершаў пераклаў на рускую мову і апублікаваў у часопісе «Новый мир» Аляксандр Твардоўскі.

Да юбілею Міколы Засіма на яго радзіме ў вёсцы Шэні Пружанскага раёна адкрыты краязнаўчы музей з экспазіцыяй, прысвечанай паэту-земляку.

## ПРАЦЯГ КАНТАКТАЎ

Пашыраюцца кантакты паміж Савецкай Беларуссю і Кітайскай Народнай Рэспублікай. Пацвярджэнне таму і нядаўняе знаходжанне ў нашай рэспубліцы дэлегацыі актывістаў Кітайскага народнага таварыства дружбы з замежнымі краінамі і Таварыства кітайска-савецкай дружбы.

Члены дэлегацыі былі гасцямі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Галоўны рэдактар выдавецтва С. Андраюк расказаў кітайскім сябрам пра структуру выдавецтва, работу калектыву ва ўмовах гаспадарчага разліку і самафінансавання. Загадчык рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры Б. Сачанка інфармаваў гасцей пра тое, якія творы кітайскіх пісьменнікаў былі выдадзены на беларускай мове ў апошнія гады і якія мяркуецца выпусціць у бліжэйшы час.

Кіраўнік дэлегацыі, галоўны рэдактар Шанхайскага выдавецтва перакладной літаратуры Бао Вэндзі падзякаваў за цёплы прыём, у ходзе якога адбылася зацікаўленая размова, і выказаў надзею на цеснае супрацоўніцтва ў далейшым. Дасягнута папярэдняя дамоўленасць з прадстаўніком рускай рэдакцыі Пекінскага выдавецтва літаратуры на замежных мовах Лу Юйлін аб абмене празаічнымі творамі пісьменнікаў дзвюх рэспублік з наступнай іх публікацыяй на беларускай і кітайскай мовах.

---

склаліся на тэрыторыі Беларусі ўжо ў XIV стагоддзі. Асабліва спрыяльнымі яны былі ў XVI—XVII стагоддзях, у перыяд інтэнсіўнага асваення неабжытых і лясных зямель з мэтай расшырэння землеўладання. У гэты перыяд узнікае шмат тапонімаў, суадносных з іншымі аднакарэннымі назвамі тыпаў паселішчаў: Наваселле, Навасёлкі, Сяліба, Сяльцо, Прысёлак, Прысёлкі, Выселка.

Паны, шляхціцы, цэрквы і манастыры былі зацікаўлены не толькі ў расшырэнні сваіх зямельных уладанняў, але і ў іх засяленні. Таму новапасяленцаў на пэўны тэрмін вызвалялі ад служб і падаткаў. Пасёлкі, у якіх сяліліся «слабодзічы» ці «вольнікі», называліся слабодамі і волямі. Слабада — вельмі старажытны тып пасялення, вядомы з часоў дафеадальнай Кіеўскай дзяржавы. Волі з'явіліся на частцы беларускай і ўкраінскай тэрыторыі ў XIV стагоддзі. Іх занеслі сюды польскія асаднікі. Праходзіў ільготны тэрмін, і вольныя паселішчы траплялі ў разрад цяглых. Але назва заставалася ранейшай: Слабада, Аронава Слабада, Баравая Слабада, Вялікая Слабада, Вярховая Слабада, Глінная Слабада, Межная Слабада, Слабодка, Загальская Слабодка, Рабінавая Слабодка, Воля, Доўгая Воля, Красная Воля, Старая Воля, Вулька, Драгічынская Вулька, Лаўская Вулька, Целяханская Вулька.

Змест беларускіх тапонімаў далёка не абмяжоўваецца пераасэнсаваннем агульнага слова ва ўласнае. Існуе вялікая катэгорыя назваў населеных месцаў, якія паходзяць ад асабовых імён, прозвішчаў, імён-мянушак. Тапанімія фіксуе іменасловы ўсіх часоў. Найбольш даўнімі тапаасновамі з'яўляюцца двухкарнявыя старажытнабеларускія імёны эпохі славянскай агульнасці: Астрамір, Гастамір, Ратмір, Дамажыр, Богуслаў, Браніслаў, Будслаў, Вечаслаў, Гасціслаў, Міласлаў, Міраслаў, Мсціслаў, Яраслаў, Міланег, Дабрагосць, Радагосць, Славагосць, Дарагамір, Раданег, Радамысль, Уладзімір, Усевалад. Старажытныя славяне называлі дзяцей не адразу пасля нараджэння, а пазней, калі ўжо былі відаць фізічныя асаблівасці дзіцяці, выпадкова ў склад імя траплялі самыя розныя прыметнікі: добры, мілы, мірны, слаўны, яры. У імені знаходзілі праяўленне пажаданні бацькоў бачыць сына воінам або купцом (госцем). Да нашага часу дайшло нямнога тапонімаў з такімі асновамі: Будслаў, Мсціслаў, Багуслаўка, Дабрагосцічы, Ратміравічы, Рачыборак, Верачагошч, Салагошч, Уладзімірава, Уладзіміраўка, Уладзіслававa і іншыя. У папярэднія эпохі іх было значна больш.

Пасля прыняцця хрысціянства (канец X стагоддзя) на Русі пачалі распаўсюджвацца хрысціянскія грэчаскія імёны, прынесеныя з Візантыі: Андрэй, Васіль, Іван, Мікалай, Міхаіл, Павел, Пётр, Самуіл, Сцяпан, Філімон. Праваслаўная царква катэгарычна забараняла карыстацца нехрысціянскімі (язычаскімі) імёнамі. Аднак яны працягвалі ўжывацца і асабліва трывала захоўваліся ў перыяд утварэння і ўмацавання цэнтралізаванай Рускай дзяржавы (пераважна на яе ўскраінах). Толькі гэта былі ў асноўнай сваёй масе не двухкарнявыя імёны, а кароткія, простыя народныя імёны-мянушкі тыпу Баян, Гром, Гутар, Ждан, Няждан, Жыла, Лабан, Крас, Някрас, Нелюб, Пазняк, Сухан, Тадула, Таміла, Трацяк, Тупаль, Хваль, Ходас, Чыр, Чэрня, Шык, Шылаш. На базе гэтых імён утвораны тысячы беларускіх тапонімаў у самай рознай форме: Бабровічы, Беляі, Вайнілавічы, Гасцілы, Гасцілавічы, Ждановічы, Жылічы, Красевічы, Красоўшчына, Некрашы, Нелюбы, Няверавічы, Нясілавічы, Пазнякі, Рагачоў, Радуцічы, Рахманькі, Субоцічы, Суханы, Хадасы. У XV — XVII стагоддзях частка дахрысціянскіх імён выйшла з ужытку, частка трапіла ў разрад афіцыйных прозвішчаў. Так што тапанімія зафіксавала іх у розных якасцях і ў розны час.

Не менш глыбокі след пакінулі ў тапаніміі імёны праваслаўнага календара. Пэўная даніна аддаецца традыцыйна-царкоўным формам імён: Ануфрыева, Антонава, Васілеўшчына, Данілавічы, Дзмітрыеўка, Дзянісава, Елісееўка, Ігнацьева, Кірылавічы, Макараўка, Максімаўшчына, Міхееўка, Палікарпаўка, Паўлаўка, Пахомаўшчына, Раманаўка, Серафімава, Сямёнавічы, Тарасава, Філіпавічы, Харытонава, Юр'ева, Яфрэмавічы. Асноўная ж большасць хрысціянскіх асабовых імён засведчана тапонімамі ў размоўна-бытавой і эмацыянальна-ацэначнай форме. Напрыклад: Андрушы (Андруш ад Андрэй); Грыневічы, Грынькова, Грыцавічы, Грыцукі (Грынь, Грынько, Грыц, Грыцук ад Грыгорый); Мітраўшчына, Міцькавічы (Мітра, Міцко ад Дзмітрый); Дарахі, Дарошкавічы (Дорах, Дарошка ад Дарафей); Ганевічы, Ганькавічы, (Гань, Ганько, Ганец ад Яўгеній); Яхімава, Юхавічы, Юхнавічы, Юшкавічы (Яхім, Юх, Юхо, Юш, Юша ад Яўфімій). За кошт выкарыстання разнастайных мясцовых хрысціянскіх імён ўтварыліся цэлыя рады аднакарэнных і роднасных паводле асновы тапонімаў. Вось як выглядае, напрыклад, адзін з такіх радоў, у якім адлюстраваны народныя варыянты імя Пётр: Пятрова, Пятрэвічы, Петрачкі, Петрыкі, Петрукі, Пятрычыкі, Петрашы, Петрышкі, Пятрашкі, Петрашэвічы, Пятрыгава, Пецькавічы, Петкавічы, Пецюкі, Пецюлі.

У адрозненне ад агульных слоў асабовыя імёны і прозвішчы рэдка становяцца тапонімамі ў сваім першапачатковым абліччы. Звычайна да іх асновы далучаюцца якія-небудзь словаўтваральныя элементы (-оў, -ова, -оўка, -шчына, -іха, -ічы), якія паўтараюцца значна часцей, чым асновы. За агульнасцю тапанімічных канцовак хаваюцца старажытныя моўныя з'явы, канкрэтна-гістарычныя падзеі і факты. Паглядзім, што ўяўляюць сабой з гэтага боку тапонімы на -ічы.

Тэрыторыя іх пашырэння ахоплівае ўсходнюю, цэнтральную і паўднёвую часткі Еўропы: уключае землі лужычан, чэхаў, славакаў, Вяліка- і Мала Польшчу, Сілезію, Мазовію, Беларусь, рад абласцей Украіны і невялікую частку заходняй Расіі. У паўднёвых славян яны адзначаюцца пераважна ў Босніі, Герцагавіне, Харватыі і Чарнагорыі, на пагранічччы Югаславіі з Угоршчынай, часткова — у Балгарыі. У межах Беларусі, Чэхаславакіі, Югаславіі і Польшчы ёсць зоны, дзе назвы на -ічы складаюць 40-80 працэнтаў ад агульнай колькасці найменняў. На сучаснай тэрыторыі Беларусі іх функцыяніруе каля 3 тысяч. Сваімі каранямі тапонімы на -ічы ўзыходзяць да перыяду славянскай праайчыны (VI-VIII стагоддзі).

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА,**
**доктар філалагічных навук.**
**(Заканчэнне будзе).**

